**Поздравляем!**

г. п. Кировск,
ул. Гагарина, 15а, кв.5,
**ЯДВИГЕ КАЗИМИРОВНЕ ВОРОНИЧ**
Дорогая, любимая мамочка!
*Поздравляем тебя с днем рождения.*
***Прими наши самые искренние пожелания: здоровья, благополучия, счастливых и радостных дней, света, добра и теплоты от родных и друзей.***
*Пусть твоя жизнь*
*не знает суеты,*
*Пусть твои годы*
*будут молодыми,*
*Пусть дарят тебе*
*улыбки и цветы,*
*И никогда не*
*расставайся с ними.*
*Пусть твое сердце*
*дарит людям свет*
*И пусть он будет*
*искренен и светел,*
*Жить тебе в достатке*
*много-много лет*
*На этом трудном,*
*но прекрасном свете.*
**Елена, Николай, Димочка.**

* * *

**Дорогая и милая жена!**
***Сердечно поздравляю тебя с днем рождения.***
*Желаю счастья и добра,*
*И долгих лет цветенья,*
*Улыбок, нежности, тепла*
*В твой светлый праздник —*
*день рожденья.*
*А счастья, радости и смеха*
*Чтобы хватило на два века,*
*Чтоб говорили все всегда:*
*"Как эта женщина красива,*
*Как бесконечно молода!"*
**Муж.**

— — — — —

д. М., шковичи,
1-ый пер. Тесовский, 15,
**СОФЬИ АЛЕКСАНДРОВНЕ ТУРЛОВИЧ**
Дорогая жена, любимая мамочка!
***Поздравляем тебя, наша родная, с днем рождения.***
*Пожелать тебе хочется*
*нежное-нежное,*
*Чтоб прошла и по сердцу*
*тепло разошлось,*
*Чтоб забылись обиды*
*и горести прежние,*
*Те, что в жизни тебе*
*испытать довелось.*
*Пусть годы летят,*
*ты не будь им подвластна*
*Пусть в сердце добро*
*не исчезнет вовек,*
*Здоровья тебе*
*и огромного счастья,*
*Хороший, любимый,*
*родной человек.*
**Муж, сын.**

— — — — —

г. п. Кировск,
3-й пер. Советский, 10, кв.5,
**ВАЛЕНТИНЕ ФЁДОРОВНЕ ЗАХАРОВОЙ**
Дорогая Валентина!
***От всего сердца поздравляем тебя с юбилеем.***
*Года бегут, как ветер,*
*без оглядки,*
*Пройдут, расстают,*
*словно дым,*
*Важно то, чтоб*
*на любом десятке*
*Оставалось*
*сердце молодым!*
*Пусть виски*
*покрыты сединой*
*И выправка уже не та,*
*Желаем бодрости и силы*
*Сегодня, завтра*
*и на долгие года.*
**Соседки А.Н.Русецкая, и Е.М.Леванович.**

# "КУРСК": НЯЎЖО ГЭТА РЭАЛЬНАСЦЬ?

Сапраўды правы людзі, якія заўважылі: жнівень — сумны месяц для Расіі. Але тое, што адбылося дванаццатага жніўня — трагедыя для ўсяго чалавецтва. Ваенна-марскі флот не ведаў катастроф такога маштабу. Загінуў адзін з лепшых экіпажаў падводнага флоту Расіі. Чаму гэта адбылося? Хто вінаваты?

Дваццаць першага жніўня нарвежскія глыбакаводнікі вынеслі атамнай падлодцы "Курск" канчатковы прыгавор: усе адсекі затоплены, экіпаж загінуў. Не вытрымаўшы гэтай страшнай весткі, некалькі родзічаў загінуўшых трапілі ў рэанімацыю. Астатнія адмаўляюцца адзець жалобу да таго часу, пакуль не ўбачаць целы сваіх родных. Надзея, наіўная, амаль затухшая яшчэ жыве ў іх звар'яцелых ад гора сэрцах. Многія выказваюць прапановы аб прычынах трагедыі, але ВМФ Расіі больш схільны да версіі аб сутыкненні атамахода з невядомым аб'ектам. Быццам, невядомая падлодка знаходзілася на перыскопнай глыбіні, а "Курск" пачынаў усплыцце. Гэта пацвярджаецца і прабоінай у насавой частцы лодкі, якая ўвагнутая ва ўнутр, і невядомы прадмет, знойдзены за 300 метраў ад месца аварыі, нібы належачы таму самаму "аб'екту". Але ў такім выпадку паўстае два пытанні: першы — дзе ж дзяваўся гэты "невядомы" падводны "аб'ект"? Цячэннем змыла? Абсурд! Не думаю, што нават са скорасцю 2 вузлы ў гадзіну, яно магло знесці шматтонную лодку. Ці яна "аклямалася" і сваім ходам знікла з месца здарэння? Але, дазвольце, калі "Курск", здольны вытрымаць невялікі атамны выбух (у сувязі з устойлівасцю адпадае версія аб глыбіннай бомбе), увесь пакрыты трэшчынамі, то аб якім "аклямaнні" можа ісці размова?

І другое пытанне: для якіх мэт на борце атамнага падводнага крэйсера К-141 былі ўстаноўлены радарныя і лакацыйныя сістэмы? Ці расійскі флот дайшоў да таго, што ў мора выходзяць караблі з няспраўным абсталяваннем? Ці НАТАўскія

**Рэзананс**

субмарыны (дарэчы, НАТА сапраўды пацвердзіла іх прысутнасць у Баранцавым моры ў час вучэнняў Паўночнага флоту), адключыўшы ўсе рухавікі і сцішыўшыся, ганебна шпіёнілі, каб у выпадку канфлікту з Расіяй, ведаць, з кім мець справу? На тое, што яны прызнаюцца ў сваёй віне, у нас надзеі не было. Ды і вопыт у іх вялікі ў гэтай справе: колькі ўсяго было, а ні разу не прызналіся.

Брытанцы дзвюма рукамі ўхапіліся за версію выбуху. Коратка кажучы, тарпеды яны, маўляў, не правільна запусцілі (цікава, што ж там на атамнай падлодцы ўсе навабранцы былі, уключаючы і капітана), у выніку чаго і адбыўся выбух, а за ім ад дэтанацыі ўзарвалася другая ракета. Гэта тлумачыцца двума выбухамі, зафіксаванымі нарвежцамі. Ну тады скажыце, калі ласка, што рабіла побач з АПЛ "Курск" невядомая субмарына, якую выявілі ў першыя дні аперацыі разам з атамаходам, а пазней так загадкава знікшай? Грэлася ў цёплых водах Баранцава мора, ці ачышчала ілюмінатары, каб праверыць, ці дакладна выканаcontainsны загад свайго камандавання?

Усё гэта толькі здагадкі, але тое, што рабяты, загінуўшыя на "Курску", героі — ужо ні ў каго не выклікае сумненняў. Не аўтаматыка спрацавала (і гэта ўжо дакладна ўстаноўлена). Не, гэта яны цаной асабістых жыццяў адключылі рэактар, адрэзаўшы гэтым самым шлях да самастойнага выратавання. Цаной стасемнаццаці жыццяў, яны цалкам выключылі магчымасць радыёактыўнага забруджвання і выратавалі тым самым тысячы...

Замест эпілога.

Успамінаюцца словы карэспандэнта расійскай тэлекампаніі: "Ну што скажа жонка мічмана свайму дзіцяці, нарадзіўшамуся праз шэсць месяцаў пасля трагедыі? Праз шэсць месяцаў пасля гераічнай гібелі экіпажа легендарнага "Курска"? Што Расіі не хапіла ў 2000 годзе грошай на павелічэнне бюджэту ВМФ? І таму яго бацька не "хварэе" з ім за любімую футбольную каманду, не чытае казак перад сном, не паказвае на беразе сваю падводную людку?...

Напэўна, мала хто не згадзіцца з Прэзідэнтам Беларусі А.Р.Лукашэнкам з нагоды аб'яўлення 23 жніўня жалобы і ў нас. Для нас гібель экіпажа АПЛ "Курск" такая ж трагедыя. І кіламетры, што падзяляюць Мурманск і Беларусь, не ўмяншаюць наш боль. Ды і беларусы на крэйсеры былі. Двое...

**Лілія БРЭТА.**

## * Аднакурснікі



***Віталь Папкоў, якога вы бачыце на здымку злева, і Андрэй Панчкоўскі вучацца ў Жыліцкім сельскагаспадарчым каледжы. Аднакурснікі, нават займаюцца ў адной групе. Абодва перад гэтым закончылі прафесійныя вучылішчы з адзнакай. Віталь — Рэчыцкае, Андрэй — Слуцкае, дзе атрымалі прафесію майстроў сельскагаспадарчай вытворчасці. І зараз, у каледжы, яны займаюцца па непарыўнай інтэграванай сістэме прафесіянальнай адукацыі. Інакш кажучы, калі хлопцы закончаць каледж з адзнакай, то яны без экзаменаў становяцца студэнтамі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ці Гродзенскага сельскагаспадарчага універсітэта. Дык пажадаем юнакам поспехаў у вучобе ў новым навучальным годзе.***

**Фота Пятра Сурыновіча.**



## Тэхніка бяспекі

# КАБ НЕ БЫЛО ПОЗНА

Сёлета праведзена праверка шэрагу прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў раёна па падрыхтоўцы да прадстаячага ацяпляльнага перыяду. Так, нядрэнна абстаяць справы ў аўтапарку-14, ААТ "Кіраўск-Лён", ПТВ-220, ПМК-255 і іншых. Аднак, ёсць такія суб'екты гаспадарання, дзе пакуль не прыступілі да правядзення падрыхтоўчых работ. Гэта, у першую чаргу, датычыцца УПП "Кіраўскі кансервавы завод", дрэваапрацоўчага камбіната.

Маюцца пэўныя пытанні і да кіраўніцтва ААТ "Кіраўскае райаграпрамтэхзабеспячэнне" па рамонту цеплатрасы, няспраўнасць якой можа прывесці да таго, што жыхары 230 кватэр па вуліцы імя Гагарына райцэнтра правядуць зіму ў холадзе, а таксама да кіраўніцтва РВА ЖКГ па рамонту цеплавой ізаляцыі цеплатрасы "Ільнозавод-вул. імя Валадарскага", што дазволіць значна скараціць страты цеплавой энергіі. А гэта не толькі сродкі кватэраз'ёмшчыкаў, а і бюджэту раёна.

Пачатак ацяпляльнага сезону — не за гарамі. І нельга чакаць, пакуль паляцяць "белыя мухі", а ўжо зараз сур'ёзна заняцца пытаннямі падрыхтоўкі да зімы. Толькі адных размоў тут мала, патрэбна распачынаць работы. Зіма чакаць не будзе.

**Аляксандр ХРЫСТАЛЮБАЎ,**
**інспектар раённай інспекцыі дзяржэнерганагляду.**

г. п. Кировск,
ул. Первомайская, 21,
**СЕРГЕЮ ПЛАТОНОВИЧУ ТКАЧЕВУ**
Уважаемый Сергей Платонович!
*Сердечно поздравляем с днем рождения.*
*Пусть солнце сияет*
*за Вашим окном,*
*Пусть радость и мир*
*не покинут Ваш дом,*
*Пусть мимо проходят*
*печаль и невзгоды,*
*Здоровья и счастья*
*на долгие годы.*
*Чтоб жить —*
*не тужить*
*до 100 лет довелось,*
*Пусть сбудется все,*
*что еще не сбылось.*
*С глубоким чувством*
*уваженья,*
*Без лишних слов,*
*без лишних фраз,*
*Позвольте же*
*от всего сердца*
*Поздравить*
*с днем рожденья Вас!*
**Семья Богдановых.**



**Калектывы работнікаў рэдакцыі райгазеты "Кіравец" і друкарні** выказваюць глыбокае спачуванне **Ніне Дзмітрыеўне КАПУСЦІНАЙ і яе СЯМ'І** з выпадку смерці **МАЦІ, ЦЕШЧЫ, БАБУЛІ, ПРАБАБУЛІ.**

**Калектывы работнікаў рэдакцыі райгазеты "Кіравец" і друкарні** выказваюць глыбокае спачуванне **Ніне Радзівонаўне МАРЦЮЧЭНКА і яе СЯМ'І** з выпадку смерці **СЯСТРЫ, ЦЁТКІ, БАБУЛІ.**

**Сям'я Л.І.Хілько** падзяляе вялікае гора з **Нінай Дзмітрыеўнай КАПУСЦІНАЙ, Ганнай Дзмітрыеўнай ГУКАВАЙ, Жанай Дзмітрыеўнай МУРАШКА і іх СЕМ'ЯМІ** з выпадку смерці **МАЦІ, ЦЕШЧЫ, БАБУЛІ, ПРАБАБУЛІ.**

**Сем'і Трафіменка, Лук'янавай, Аўсянік, Жвірблеўскай** выказваюць глыбокае спачуванне **Ніне Дзмітрыеўне КАПУСЦІНАЙ і яе СЯМ'І** з выпадку напаткаўшага іх гора — смерці **МАЦІ, ЦЕШЧЫ, БАБУЛІ, ПРАБАБУЛІ.**

**Калектыў рабочых і служачых рамонтна-будаўнічага ўчастка** выказвае глыбокае спачуванне **Юрыю Вячаслававічу ЯГОРАВУ і Аляксандру Леанідавічу ЛЯШКО** з выпадку смерці **МАЦІ.**

**Суседзі Рымаравы, Кандрацэнкі, Стральцовы, Хамічэнкі, Русавы** падзяляюць вялікае гора з **Іванам АНІСІМАВЫМ і яго СЯМ'ЁЙ** з выпадку смерці **МАЦІ, СВЯКРУХІ, БАБУЛІ.**

**Сям'я А.Я.Сычеўскай** выказвае глыбокае спачуванне **Тамары Міронаўне МІХАЛАП і яе СЯМ'І** з выпадку дачаснай смерці **МУЖА, БАЦЬКІ, ДЗЯДУЛІ Мікалая.**

**Праўленне, прафкам калгаса "III з'езд Саветаў"** выказваюць глыбокае спачуванне **Валянціне Васільеўне ЮРКАВЕЦ і яе СЯМ'І** з выпадку смерці **МУЖА, БАЦЬКІ, ДЗЯДУЛІ.**

**Праўленне, прафкам калгаса "III з'езд Саветаў"** глыбока смуткуюць з выпадку смерці **Зінаіды Канстанцінаўны КОСТКА** і выказваюць спачуванне **РОДНЫМ і БЛІЗКІМ** памёршай.

**Вучні 8-га і 9-га класаў Скрыпліцкай СШ і іх класныя кіраўнікі М.А.Алейнік, І.Д.Бяляўская** выказваюць глыбокае спачуванне **Вользе СЯМЁНАВАЙ і Марыне КАРАСЁВАЙ** з выпадку напаткаўшага іх гора — смерці **БАБУЛІ.**

**Калектыў настаўнікаў і тэхработнікаў Скрыпліцкай СШ** выказвае глыбокае спачуванне **Марыі Яўсееўне КАРАСЁВАЙ і яе СЯМ'І** з выпадку смерці **МАЦІ, ЦЕШЧЫ, БАБУЛІ.**


**Рэдактар Пятро СУРЫНОВІЧ**

*Заснавальнікі:*
*Кіраўскі раённы выканаўчы камітэт,*
*Кіраўскі раённы Савет дэпутатаў,*
*рэдакцыя газеты "Кіравец".*

Рэгістрацыйны № 285.
Падпісана да друку ў 17 гадзін.

Наш адрас: *Рэспубліка Беларусь, 213940, Магілёўская вобласць, г. п. Кіраўск, вул. Пушкінская, 15.*
Тэлефоны: *рэдактар 21-2-63, намеснік рэдактара, адказны сакратар, аддзел грамадска-палітычнага жыцця 21-5-69, аддзелы аграпрамысловага комплексу і экалогіі, пісьмаў і сацыяльных праблем 21-5-35, бухгалтэрыя 21-4-76, спецыялісты настольна-выдавецкай сістэмы 21-3-93.*

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і сапраўднасць фактаў.*
*Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.*
*Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

*Аб'ём — адзін друкаваны аркуш*
*Газета выходзіць у сераду і суботу на беларускай мове.*
*Індэкс газеты - 64077. Заказ 3540.*
*Бабруйская ўзбуйнёная друкарня імя Непагодзіна, вул. Сацыялістычная,103.*
*Друк афсетны. Тыраж жніўня 2777.*